**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 2 (718) 9 студзеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**Сквер Перамогі ў Глыбокім.**
***БМП пакрысе разбіраюць на сувеніры.***
*Працяг тэмы на стар. 5.*

*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Докшыцкі раён

# Каб часцей усміхаліся дзеці

■ Чэслаў Якубовіч

**Сапраўдны цудоўны падарунак напярэдадні навагодніх і калядных свят атрымалі жыхары Докшыц.**

Тут на месцы былога невялічкага сквера паблізу адной з школ райцэнтра адкрыўся сучасны водна-аздараўленчы цэнтр, хоць спачатку гэты аб'ект планавалі будаўнікі мясцовай ПМК-52 здаць толькі сёлета. На яго ўзвядзенне пайшло амаль 15 млрд. рублёў і 3 гады адказнай працы. Характэрна, што на гэты ФАК з дапамогай куратара будоўлі старшыні Палаты прадстаўнікоў беларускага парламента Уладзіміра Андрэйчанкі практычна не траціліся сродкі з мясцовага бюджэту. Прыгожы будынак светла блакітнага колеру ўключае чатыры плавальныя дарожкі даўжынёй 25 метраў, аснашчаныя сучаснай электроннай сістэмай падрыхтоўкі і ачысткі вады. Басейн у райцэнтры аснашчаны і чатырма рознымі установкамі масажу, вадзянымі пушкамі. На новым ФАКу працуе таксама і сауна, у адным з памяшканняў добра аснашчаная трэнажорная зала. Пасля актыўнага адпачынку дамоў можна не спяшацца, а выпіць гарбаты альбо кофе ў буфеце. Разлічаны аздараўленчы цэнтр на вадзе найперш на дзяцей і моладзь, нават злучаны спецыяльнай пешаходнай галярэяй са школай. Але першыя дні працы пказалі, што сюды імкнуцца трапіць за порцыяй задавальнення і бадзёрасці і людзі іншых узростаў. На жаль, такіх вось патрэбных для ўмацавання здароўя насельніцтва цэнтраў у вобласці няшмат. Праўда, сёлета запланавана пабудаваць басейн у сталіцы рэспубліканскіх "Дажынак" Гарадку, завяршыць рэканструкцыю басейна "Маладосць" абласнога цэнтра і прадоўжыць узвядзенне ФАКа з басейнам ва Ушачах.

## Пастаўскі раён

# Быў флагманам – стане філіялам

■ Кастусь Александровіч

**Айчынны вопыт вырашэння эканамічных праблем не мае аналагаў у сусветнай гісторыі. У недалёкім мінулым у нас адразу 400 стратных калгасаў, з іх 101 на Віцебшчыне, былі далучаны альбо прададзены розным прадпрыемствам.**

Такая рэарганізацыя тады ў Пастаўскім раёне не закранула буйны СВК "Камайскі", які ў ліку 60 па Беларусі быў вызначаны нават базавым па дасягненні найвышэйшага ўзроўню эфектыўнасці вытворчасці. У гэтай гаспадарцы па дзяржпраграме адраджэння вёскі спачатку многае атрымлівалася. Трэць усёй валавай прадукцыі раёна ў раслінаводстве і жывёлагадоўлі атрымоўвалі тут, намалачвалі штогод звыш 17 тысяч тон збожжа і прадавалі дзяржаве каля 3 тысяч тон мяса. Аднак на суботу 11 студзеня дырэкцыя цяперашняга ААТ прызначыла пазачарговы сход акцыянераў аб правядзенні рэарганізацыі гаспадаркі шляхам далучэння да Пастаўскага малочнага завода. Зараз фінансавае становішча буйнога сельгаспрадпрыемства, як і яшчэ іншых дзевяці на Пастаўшчыне, складанае. Рэнтабельнасць прадаж у камайцаў адмоўная – 5, нерэнтабельнай стала нават цэлая галіна жывёлагадоўлі, хоць "Камайскі" мае свой буйны свінакомплекс з пагалоўем болей 18 тысяч галоў. Таксама тут летась недабралі амаль 4 млрд. рублёў ад нізкай якасці і таварнасці малака. Цяжкасці ўзніклі ад частай змены кіраўніцтва, дае аб сабе ведаць далучэнне да гаспадаркі яшчэ пяці былых стратных калгасаў. Як і ў суседзяў, на зямлі і на фермах неналежная тэхналогія вытворчасці, нізкая дысцыпліна і безгаспадарчасць, а адсюль і праблемы.

## Полацкі раён

# Ажыятаж на СТА

■ Станіслаў Раманчук

**У апошнія дні мінулага года па ўсёй Беларусі, асабліва ў буйных гарадах, назіраўся неверагодны ажыятаж нараўне з псіхозам на станцыях тэхабслугоўвання аўтамабіляў.**

У сувязі з увядзеннем так званага транспартнага падатку многія імкнуліся да 31 снежня атрымаць патрэбную наклейку на лабавое шкло, каб не плаціць лішніх 70 долараў сёлета за допуск да дарожнага руху. Не пазбегнулі гэтых праблем і жыхары двух гарадоў-спутнікаў Полацка і Наваполацка, хоць у гэтай мясцовасці дзейнічаюць нават чатыры станцыі СТА, па дзве ў кожным горадзе. Асабліве расчараванне напаткала тых, хто у снежні павінен быў прайсці тэхагляд і ездзіць, не баючыся заплаціць штраф пакуль у суме 260 тысяч рублёў. Аднак нават прайсці планавы снежаньскі тэхагляд было складана, бо чэргі па запісу былі распісаны наперад да 8 студзеня на некалькі тыдняў. З вялікай нагрузкай працавалі супрацоўнікі буйнейшай СТА № 87 Наваполацкага аўтапарка № 6, якія ў апошні месяц мінулага года абслужылі больш чым за трэцfolk ўладальнікаў аўто, чым у снежні 2012 года. Самыя ж разумныя суайчыннікі толькі плячыма разводзілі, ці варта вось так паліць свае нервы, альбо перад padaражаннем паліва ляцець на АЗС заправіцца пад завязку. Колькі такая эканомія будзе значыць на фоне падарваных нервных клетак і сапсаванага настрою?

# Аб самым надзённым

## ПРЫ ЦЯПЕРАШНІМ СТАНЕ ЭКАНОМІКІ ЗАПЛАНАВАНЫ РОСТ СЁЛЕТА ВУП БЕЛАРУСІ НА 3,3 % МОЖА І НЕ СПРАЎДЗІЦЦА

■ Аляксандр Цішкевіч

**У нас зараз адзіная галіна эканомікі, якая быццам нарошчвае экспарт і развіваецца – гэта сельская гаспадарка і мела летась за 10 месяцаў амаль 1,5 млрд. долараў станоўчага сальда знешняга гандлю. Аднак большасць беларускіх гаспадарак маюць велізарныя даўгі (на Віцебшчыне – найгоршая сітуацыя).**

Як і чакалася, напрыканцы снежня мінулага года ў нашай краіне яшчэ перад каталіцкімі святамі стартавала чарговая выбарчая кампанія па пераабранні дэпутатаў мясцовых Саветаў. Нам з высокіх трыбун паведамілі, што заканчваецца ў "сінявокай і стабільнай" дзяржаве перыяд дыктатуры і паабяцалі нават пачатак пераходу да этапу дэмакратыі. Адначасова на пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў у звыклым тэмпе быў зацверджаны Закон аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2014 год. Аднак нават дзяржаўныя СМІ акцэнтавалі ўвагу, што ў Авальнай зале пры прыняцці гэтага дакумента адчувалася нервозная абстаноўка.

І гэта невыпадкова, бо парламентарыі ў адрозненне ад большасці насельніцтва, многае ведаюць аб сітуацыі цяпер у эканоміцы, яны могуць з першых вуснаў запытацца ў членаў урада, міністраў аб стане рэальных спраў. Аднак дэпутаты нашы людзі – паслухмяныя, гэта вам не ўкраінскія апазіцыянеры, якія ніяк не могуць супакоіцца. У Мінску спачатку прапанаваны дэфіцытны айчынны дзяржбюджэт на гэты год у памеры 10 трыльёнаў рублёў з падачы Саўміна ў выніку стаў аптымістычным. Канчатковыя сумы дзяржрасходаў сталі збалансаваны дзякуючы павелічэнню даходнай часткі.

Разлікі зыходзілі з таго, што экспарт беларускіх тавараў сёлета павялічыцца на 4,4 млрд. долараў (вам у гэта верыцца?). Таксама сярэднегадавы курс долара не павінен перавысіць 9800 рублёў, а гадавая інфляцыя знізіцца і не перавысіць 11 %. На жаль, яшчэ на перадмнавагодніх таргах курсы замежных валют паставілі новыя рэкорды і перавысілі сімвалічныя планкі больш 9500 рублёў за 1 USD і 13000 рублёў за 1 еўра. Дарэчы, мала верыцца, што ў гэтым годзе рост цэн спыніцца, бо публічна агучаны рост тарыфаў на ЖКГ і на многае іншае.

Нарэшце пры прыняцці дзяржбюджэту зыходзілі з таго, што валавы ўнутраны прадукт сёлета вырасце на 3,3 %, калі ў мінулым годзе беларускі ВУП дасягнуў сціплых меней 1 % пры заданні 8,5 %. Адзінае, што ў нас не сталі нерваваць народ і не сталі ўводзіць вызную пошліну для фізічных асоб у суме 100 долараў пры паездках за граніцу. У гэтым годзе не будзе ўведзены і падатак на дармаедаў. А вось у астатнім можна не сумнявацца, што дапамагаць даходнай частцы бюджэту будуць у многім і за кошт нас з вамі. Пра гэта ведае кожны аўтамабіліст, за кошт кіроўцаў плануюць сабраць паступленні ў памеры 1-1,6 трыльёна рублёў.

Ды і кошт паліва ў Беларусі сёлета яшчэ больш вырасце, пра што сведчыць запланаванае павышэнне акцызаў на аўтамабільнае паліва. Як і ў іншых краінах, улада будзе вырашаць бюджэтныя праблемы павышэннем кошту цыгарэт і на алкагольныя напоі, што ўжо і адбылося для курцоў. Пра няпростую сітуацыю на айчынных прадпрыемствах і ў калгасах таксама людзі ведаюць, як і пра імклівае скарачэнне летась золатавалютных рэзерваў. Мы павінны таксама ведаць, што цяперашнія высокія цэны практычна на ўсё ў Беларусі народ падтрымлівае з дапамогай падатку на дабаўленую вартасць.

З дапамогай ПДВ, дарэчы, фарміруецца амаль трэць (32,4 %) кансалідаванага бюджэту. Купляючы болей тавараў, мы дапамагаем выконваць зацверджаныя прагнозы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. З іншага боку сёлета запланавалі спыніць паступленне на спажывецкі рынак імпартных тавараў, пра гэта сведчыць актыўнасць урада па ўвядзенні ліцэнзій на прадукцыю легпрама на рынках. І стала відавочна, што бягучы год наўрад ці стане лягчэйшым, чым папярэдні. У лепшым выпадку Беларусь атрымае апошні шосты транш крэдыта ЕўрАзЭс толькі ў ліпені.

У нас зараз адзіная галіна эканомікі, якая быццам нарошчвае экспарт і развіваецца – гэта сельская гаспадарка і мела летась за 10 месяцаў амаль 1,5 млрд. долараў станоўчага сальда знешняга гандлю. Аднак большасць беларускіх гаспадарак маюць велізарныя даўгі (на Віцебшчыне – найгоршая сітуацыя). На канец мінулага года рэнтабельнасць прадаж АПК складала 0,9 %, а з улікам вялікай двухзначнай інфляцыі – гэта галіна стратная, сельская гаспадарка Беларусі – па-сутнасці банкрут. Акупіць вялізныя ўліванні яна не можа і рэгулярны рост цэн на харчаванне – таму пацвярджэнне.

На жаль, аналагічнае становішча і з нашымі цэментнымі заводамі, прадпрыемствамі дрэваапрацоўкі. Адзінае, чым мы можам "пахваліцца" – дык гэта рост знешніх даўгоў. Па прадукцыйнасці працы мы адстаем ад развітых краін Еўропы ў 5 разоў і таму так жывём не па сродках. Відавочна, што ў наступіўшым 2014 годзе існуючых праблем меней не стане, мы дажыліся да таго, што частку дзяржрасходаў ужо пакрывае Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 09.01.14 | | | | Пятніца 10.01.14 | | | | Субота 11.01.14 | | | | Нядзеля 12.01.14 | | | | Пн.13.01.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +5 | +4 | +4 | +3 | +5 | +5 | +4 | +3 | +2 | +1 | +4 | +2 | +2 | +1 | +1 | -2 | -4 | -4 |
| Ціск | 740 | 742 | 743 | 743 | 739 | 733 | 731 | 730 | 731 | 737 | 740 | 740 | 739 | 738 | 737 | 737 | 740 | 743 | 745 |
| Вільготнасць | 97 | 91 | 91 | 90 | 95 | 92 | 88 | 87 | 89 | 85 | 80 | 87 | 88 | 91 | 89 | 92 | 69 | 56 | 46 |
| Вецер м/сек | 3 З | 5 З | 6 З | 4 З | 4 Пд | 5 Пд-З | 8 З | 8 З | 10 З | 9 З | 7 З | 7 З | 6 З | 3 З | 4 З | 5 Пн-З | 7 Пн-З | 7 Пн-З | 7 Пн-З |

## Дзень за днём

**Дадатковы крэдыт Расii ў памеры 2 мільярды долараў можа сур'ёзна дапамагчы праблемнай айчыннай эканоміцы. Тавараабарот Беларусі з ЕС летась знізіўся на чвэрць, рэальныя заробкі працуючых знізіліся на 4 %. Не раней прэзідэнцкіх выбараў 2015 года дачакаюцца беларусы шэнгенскіх віз па 35 еўра. У праваслаўных беларусаў з'явіўся новы мітрапаліт Павел, які ніколі не жыў на нашай зямлі. На навагоднія святы для беларусаў зноў падаражэлі цыгарэты, асобныя – нават у 2 разы. Прадукты на навагодні стол за год падаражэлі на 21 %, асобныя з іх цяпер даражэй, чым у элітных крамах на Рублёўцы.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** З-за буйнога карупцыйнага скандалу, у якім удзельнічалі сыны ўплывовых чыноўнікаў, прэм'ер-міністр адправіў у адстаўку адразу 10 міністраў свайго кабінета.

**Егіпет.** Урад краіны аб'явіў рух "Браты-мусульмане" тэрарыстычнай арганізацыяй пасля выбуху каля штаб-кватэры паліцыі ў горадзе Эль-Мансуры, дзе загінулі 15 чалавек.

**Украіна.** Па дадзеных снежаньскіх сацдаследванняў, палова ўкраінцаў жадаюць уступіць у Еўрасаюз, супраць гэтага – трэць насельніцтва, не вызначыліся – 21,3 % апытаных.

**Кітай.** Ва ўсіх рэгіёнах краіны прайшлі мерапрыемствы памяці заснавальніка КНР Мао Цзэдуна з нагоды яго 120-годдзя, але адзначалася, што ягоная палітыка ўжо састарэла.

**Расія.** Савет Антыкрызіснага фонда ЕўрАзЭс адклаў на 6 месяцаў разгляд пытання аб выдзяленні Беларусі 6-га траншу крэдыту з-за невыканання ёй 10 параметраў дамовы.

**Англія.** Заходнія СМІ выказалі трывогу адносна бяспекі зімовай Алімпіяды пасля чарговых тэрактаў на Каўказе і ў Валгаградзе, які знаходзіцца ў 690 км ад Сочы.

**Азербайджан.** Краіна выказала афіцыйны пратэст супраць уступлення Арменіі ў Мытны саюз да таго часу, пакуль не будзе вырашаны нагорна-карабахскі канфлікт.

**Расія.** На федэральным ваенным мемарыяле пад Масквой знайшоў вечны спакой легендарны канструктар аўтаматычнай зброі Міхаіл Калашнікаў, ён памёр ва ўзросце 93 гады.

**КНДР.** Вайна на Карэйскім паўвостраве, як пагрозліва заявіў малады адыёзны лідар паўгалоднай крiаны Кім Чэн Ын, можа пачацца без папярэдняга паведамлення аб гэтым.

**ЗША.** Шэраг СМІ краіны паведамілі аб быццам пагаршэнні адносін пасля 21 года сумеснага жыцця прэзідэнта з жонкай Мішэль Абама, але Каляды яны святкавалі разам.

**Кітай.** Кіраўніцтва краіны скасавала сістэму дзеючых працоўных лагераў дляперавыхавання апанентаў і адмовілася ад палітыкі "адна сям'я – адно дзіця".

**Албанія.** Чацвёра бандытаў у касцюмах Санта Клаусаў здзейснілі два ўзброеныя налёты і абрабавалі ювелірныя крамы ў сталіцы краіны Тыране і ў горадзе Прызрэн у Косава.

**Аргентына.** На пляжы ў горадзе Расрыа больш 60 адпачываючых, з іх 7 дзяцей, сур'ёзна пацярпелі пасля нападзення на людзей у спёку пад 38 градусаў і укусаў піранняў.

**Францыя.** Сяміразовы чэмпіён свету, аўтагоншчык 44-гадовы Міхаэль Шумахер трапіў у кому, ён катаўся на горналыжным курорце і няўдала ўдарыўся галавой аб скалу.

**Расія.** Падчас авіяпералёту з Новасібірска ўпаў на ваенныя склады ля Іркуцка і разбіўся транспартны самалёт Ан-12, загінулі ўсе 6 чалавек экіпажа мясцовага авіязавода.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Многія буйныя заводы, як паведаміў старшыня прафсаюза РЭП Г. Фядыніч, не працавалі ў пачатку года, на складах скапілася нерэалізаванай прадукцыі на 30 трыльёнаў рублёў.

**Барысаў.** З-за працяглых навагодніх канікул у Расіі работнікаў мясцовага завода БАТЭ адправілі ў двухтыднёвы водпуск да 13 студзеня, многіх - і за свой кошт на 18 дзён.

**Брэст.** Мясцовы лікёрагарэлачны завод "Белалка" пераўтварылі ў адкрытае акцыянернае таварыства з мэтай наступнага продажу, як і аналагічнае прадпрыемства галіны ў Мазыры.

**Дзяржынск.** Шэраг жыхароў раённага цэнтра паскардзіліся новаму кіраўніку вобласці С. Шапіра, што іх кааператыўны дом-доўгабуд не могуць здаць у эксплуатацыю з 2009 года.

*Мінск.* Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Н. Ермакова зноў супакоіла беларусаў, што не будзе аднаразовай дэвальвацыі, Беларусі не трэба спяшацца з уводам адзінай валюты.

**Вілейка.** Пераведзены сюды служыць Госпаду і людзям пасля паўгадовай адсідкі ў турме КДБ ксёндз Уладзіслаў Лазар заявіў, што ні ў чым ён не быў вінаваты у справе "шпіёна".

**Мінск.** У адным з буйных мікрараёнаў сталіцы Паўднёвы Захад "Белсаюздрук" адкрыў яшчэ адзін сучасны павільён з міні-кафэ, такіх будзе 5 да чэмпіянату свету па хакеі.

**Жабінка.** Глыбокай ноччу на полі паблізу вёскі Сакалова на невядомай прычыне загарэўся драўляны склад з сенам, агонь знішчыў каркас будынка і 200 тон корму ў рулонах.

**Мінск.** Пасля адкрыцця другой пляцоўкі да чэмпіянату свету па хакеі "Чыжоўка-Арэна" у ёй запрацавалі гандлёвы цэнтр і 10 рэстаранаў і кафэ, на чарзе – касметычны салон.

**Баранавічы.** Улады выставілі на продаж вялізны, але занядбаны комплекс будынкаў былога палаца Радзівілаў архітэктуры класіцызму з паркам вакол паблізу горада.

**Ашмяны.** Вечарам выратавальнікі МНС у вёсцы Кемяны выратавалі маладога бычка, які праваліўся пад тонкі лёд на возеры, калі гаспадар выпусціў цяля пагуляць на вуліцы.

**Мінск.** Расійскі пасол А. Сурыкаў пацвердзіў, што з 2008 года на стабілізацыю сітуацыі ў Беларусі РФ выдзеліла ўжо 8 мільярдаў долараў крэдыту і нічога не чакае за дапамогу.

**Бабруйск.** У адным з інтэрнатаў горада 32-гадовы п'яны непрацуючы дэбашыр з нажом напаў на міліцыянера, каб спыніць раней судзімага, прыйшлося стрэліць у нагу.

**Брэст.** Вядомы бізнесмен А. Машэнскі прызнаўся, што сёлета яго кампанія "Санта Брэмар" можа быць пераіменаваная і да пагроз года аднёс рызыку абвалу нацыянальнай валюты.

**Мінск.** За ўдзел у акцыі "Стоп-падатак" і язду па праспекце з лістоўкай "Хопіць абдзіраць!" міліцыя забрала ў маладога мінчаніна "на экспертызу" кузава яго BMW.

# Міністр працы і сацабароны расказала пранаваўвядзенні ў гэтай сферы




■ БелаПАН

**Міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Мар'яна Шчоткіна ў эфіры праграмы «У цэнтры ўвагі» вечарам 5 студзеня на тэлеканале «Беларусь 1» расказала пра нававўвядзенні ў гэтай сферы.**

Паводле слоў Шчоткінай, 25 студзеня набывае моц новая рэдакцыя закона пра ахову працы. «Там ёсць вельмі цікавыя моманты і, першым чынам, тое што ўводзіцца паняцце паслугі ў сферы аховы працы. Гэта значыць зараз арганізацыі і індывідуальныя прадпрымальнікі змогуць пры пэўных умовах аказваць такія паслугі», — расказала міністр.

Ужо ўхваленыя Саветам Рэспублікі змяненні ў Працоўны кодэкс. Гэта, як адзначыла Шчоткіна, таксама азначае «новую вяху» ў развіцці працоўных адносін. «Новы раздзел кодэкса рэгулюе працоўныя адносіны ў прафесійным спорце. З'явіцца магчымасць для прадпрымальнікаў заключаць тэрміновыя працоўныя дагаворы са сваімі работнікамі, незалежна ад таго, што гэта за праца. Мы і кожны чалавек зацікаўленыя ў тым, каб працоўныя адносіны былі аформлены, таму што гэта гарантыя», — заявіла міністр.

«Па сацыяльнай абароне ў нас пастаянна развіваюцца яе новыя формы. Закон аб сацыяльным абслугоўванні, які прынялі летась, адрозніваецца тое, што ў ім прапісана, — гэта паслугі кароткачасовай перадышкі, паслугі сумеснага пражывання — новыя нестацыянарныя формы. Яны ставяць задачы даступнасці сацыяльнага абслугоўвання, яго якасці і адраснасці», — указала Шчоткіна.

Што датычыцца тэмы стварэння «фільтраў супраць утрыманства», яна паведаміла, што за дзевяць месяцаў 2013 года было выплачана амаль 280 мільярдаў рублёў больш як 160 тысячам чалавек. «Разам з тым, камісіі, якія прымаюць рашэнне аб прызначэнні адраснай дапамогі, маюць вельмі багатую практыку працы. І па іх прапанове ўнесены змяненні ў заканадаўства — гэта ўказ прэзідэнта № 550. Правы камісій пашыраны. Калі людзі звяртаюцца паўторна па адрасную сацыяльную дапамогу, то камісія павінна пагладзець, ці выкананы дадзеныя ёю раней рэкамендацыі. Гаворка ідзе, у першую чаргу, аб працаздольных грамадзянах», — расказала міністр.

Паводле яе слоў, калі чалавек не пайшоў вучыцца новай прафесіі, калі не працаўладкаваўся, нягледзячы на прапанаванае месца, то камісія мае поўнае права пры паўторным звароце адмовіць у адраснай сацыяльнай дапамозе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Праверка Дзяржкантролю выявіла на мясцовым сырзаводзе факты фіктыўнага афармлення адгрузак прадукцыі на працягу 2-х гадоў, каб "разгрузіць" склады на паперы.

**Віцебск.** Па выніках нацыянальнага конкурса "Лепшая прадукцыя года 2013" мясцовы мяскакамбінат заваяваў Гран-пры "За стабільную якасць" і 5 дыпломаў пераможцы.

**Полацк.** У мікраране № 2 жылога масіва "Аэрапорт" адкрыўся новы трохпавярховы дзіцячы сад на 220 месц адразу з дзвюма плавальнымі басейнамі для выхаванцаў.

**Глыбокае.** Толькі на тэрыторыі раёна і яшчэ ў Паставах з Чашнікамі хапіла жыхароў для ўтварэння двух акруг па новых выбарах у абласны савет дэпутатаў 23 сакавіка.

**Паставы.** Адразу 3 гаспадаркі раёна "Блакітныя азёры", "Андроны" і "Пастаўскі райаграсервіс" апынуліся на мяжы банкрутства, гіганцкія даўгі (613 мільярдаў) маюць яшчэ 8.

**Талачын.** Упраўляючая кампанія холдынга "Амкадор" набыла 92 % акцый Коханаўскага экскаватарнага завода, у яго абнаўленне яна інвестуе за 3 гады 50 мільярдаў рублёў.

**Докшыцы.** Спікер беларускага парламента У. Андрэйчанка адкрыў у райцэнтры новы спарткомплекс ФАКа з басейнам, на яго будаўніцтва не трацілі грошы з бюджэту раёна.

**Віцебск.** На кандытарскім камбінаце "Віцьба" асвоілі выпуск яшчэ 6 новых відаў прадукцыі, сярод іх унікальныя для краіны шакаладныя шарыкі і змянілі дызайн.

**Бешанковічы.** У райбальніцы завяршылі капітальны рамонт чарговага тэрапеўтычнага аддзялення коштам 1,3 млрд. рублёў, закупілі шэраг неабходных апаратаў.

**Віцебск.** Больш паўтысячы навабранцаў ажыццявілі першы скачок з парашутам у 103-й гвардзейская мабільнай брыгадзе, з іх 18 з дыпломамі ВНУ і 300 выпускнікі тэхнікумаў.

**Глыбокае.** У ліку толькі 15 айчынных прадпрыемстваў Беларусі прадукцыя мясцовага мясакамбіната зноў атрымала права маркіравацца знакам выдатнай якасці "ГУСТ".

**Віцебск.** За год на тэрыторыі вобласці закрылі яшчэ 9 аддзяленняў сувязі ў сельскай мясцовасці, засталося 405 пошт і дзейнічае ўжо 49 іх перасоўных аддзяленняў.

**Докшыцы.** Трагічна загінуў 50-гадовы жыхар вёскі Ваўкалаты на дарозе дамоў у яме з вадой, вырытай, але не агароджанай праводзіўшымі тут работы сувязістамі.

**Полацк.** У горадзе прайшлі ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія з удзелам усіх святароў епархіі на спецыяльнай Боскай літургіі.

**Віцебск.** Выканкам федэрацыі хакея РБ пакінуў мясцовы ХК "Віцебск" у адкрытым чэмпіянаце Беларусі, нягледзячы на яго непагашаныя даўгі ў суме 240 мільёнаў рублёў.

***Служба інфармацыі "ВГ".***

# У Беларусі сур'ёзна зменяць аплату працы бюджэтнікаў

У Беларусі ў 2014 годзе намечана сур'ёзная мадэрнізацыя сістэмы аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый, паведаміў 3 студзеня першы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Пётр Грушнік. Паводле яго слоў, яна будзе праводзіцца праз удасканаленне адзінай тарыфнай сеткі работнікаў Беларусі з адменай карэкціруючых каэфіцыентаў да тарыфных ставак работнікаў бюджэтных арганізацый, аптымізацыю структуры зарплаты.

«Будзем пераходзіць ад цэнтралізаванай да дэцэнтралізаванай сістэмы аплаты працы ў бюджэтным сектары эканомікі», - адзначыў намеснік міністра, перадае БелТА.

Пётр Грушнік распавёў, што бюджэтны заробак будзе складацца з дзвюх частак: тое, што будзе даваць дзяржава праз тарыфную стаўку першага разраду, і тое, што праз свае нарматыўныя акты рэспубліканскі орган дзяржкіравання вызначыць для кожнага канкрэтнага работніка ў залежнасці ад эфектыўнасці яго працы. Прапрацаваць усе матэрыялы плануецца ў першым паўгоддзі, каб да канца паўгоддзя выдаць пакет дакументаў ураду.

Намеснік міністра заявіў, што сёння суадносіны намінальнай налічанай сярэднямесячнай зарплаты бюджэтнікаў арганізацый з яе узроўнем па эканоміцы складае 73,5%. «Мы павінны забяспечыць суадносіны сярэдняй заработнай платы ў бюджэтным сектары эканомікі па адносінах да зарплаты па рэспубліцы ў 90%», - падкрэсліў ён.

***telegraf.by***

# Беларусы не атрымаюць 10 тыс. даляраў за нараджэнне першага дзіцяці

Дзяржпадтрымку ў рамках праекта «Вялікая сям'я» акажуць пасля нараджэння другога і наступных дзяцей, бо стымуляванне менавіта іх нараджэння з'яўляецца найбольш актуальным для Беларусі. Пра гэта 3 студзеня паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак. Аднак, паводле яго слоў, пакуль крыніцы фінансавання праграмы не вызначаны, казаць аб памерах выплат рана.

Намеснік міністра падкрэсліў, што міністэрства працы распрацоўвае механізм размеркавання сродкаў на падставе таго, колькі грошай і з якіх крыніц можа быць выдзелена. «Мы звярнуліся да Мінфіна, каб вызначыць крыніцы», - сказаў ён, перадае TUT.by.

Як перадаваў Тэлеграф, у Беларусі распрацоўваецца праект падтрымкі сем'яў з дзецьмі, паведамілі 8 кастрычніка прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў час наведвання прадпрыемства «БелАЗ» у Жодзіне. «За першага дзіцяці, дапусцім, мы адкрываем кошт на 10 тыс. даляраў, за другога - 20 тыс., за трэцяга - падвойваем», - адзначыў ён.

Выдача па 10 тыс. даляраў за нараджэнне дзіцяці магла абысціся беларускаму бюджэту ў даволі круглую суму. Так, паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у 2012 годзе ў Беларусі нарадзілася 115 тыс. дзяцей. Шляхам няхітрых арыфметычных дзеянняў можна вылічыць, што дзяржава павінна было б выплаціць іх бацькам 1,15 млрд даляраў.

***telegraf.by***

# Еўрасаюз плануе ўвесці абмежаванні на карыцу – яна шкодная для здароўя

**Карыца ў высокіх дозах выклікае галаўныя болі, разбурае пячонку. А самае страшнае ў тым, што яна канцэраген. У доследах над пацукамі яна выклікала рак. Таму аматары булачак з карыцай і карычнага шакаладу мусяць зрабіць для сябе высновы.**



Еўрасаюз, які найбольш пільна ахоўвае здароўе грамадзян, ужо рыхтуе меры.

Прапанаваная забарона скіравана на абмежаванне спажывання кумарыну, хімічнага рэчыва, якое найбольш часта выкарыстоўваецца пры вырабе касіі (таннай карыцы).

Як мяркуецца, колькасць карыцы ў хлебабулачных вырабах будзе абмежавана да 15 мг на адзін кілаграм цеста. Гэта значыць, што ў выпадку прыняцця нормы, любыя шмат каму булачкі з карыцай акажуцца пад забаронай.

***СГ***

# «Еўраопт» – самая прыбытковая прыватная кампанія Беларусі

**За трэці квартал 2013 года ТАА «Еўрагандаль» атрымала $34 мільёны чыстага прыбытку.**

Міністэрства фінансаў апублікавала фінансавую справаздачнасць беларускіх адкрытых акцыянерных таварыстваў за трэці квартал 2013 года.

Лідары традыцыйныя – нафтаперапрацоўчыя заводы. І Нафтан, і Мазырскі НПЗ атрымалі чыстага прыбытку па $150 мільёнаў (1,36 і 1,35 трыльёна рублёў адпаведна).

А вось «Беларуськалій» (807 мільярдаў рублёў) аказаўся менш паспяховым за «Белшыну» (836 мільярдаў рублёў) і скаціўся на чацвёртае месца.

Апроч ААТ, свае справаздачы апублікавалі і кампаніі, якія размяшчалі на рынку свае аблігацыі.

Самай прыбытковай кампаніяй з адкрытай справаздачнасцю стала ТАА «Еўрагандаль» (303 мільярды рублёў, $34 мільёны). Гэта дзявятае месца ў рэйтынгу за трэці квартал 2013 года.

***Ягор Марціновіч***

# У Гродзенскім раёне п'яныя станчылі на машыне міліцыі

У гарадскім пасёлку Сапоцкін Гродзенскага раёна двое падпітых мясцовых жыхароў наладзілі танцы на капоце міліцэйскай машыны УАЗ, якая стаяла ля сельскага клуба. Перад гэтым міліцыянты склалі на аднаго з іх пратакол за з'яўленне ў грамадскім месцы ў нецвярозым выглядзе.

Склаўшы пратакол, міліцыянты вырашылі праверыць захаванне парадку на дыскатэцы ў клубе. Скарыстаўшыся момантам, 18-гадовы хлопец паклікаў сябра і разам з ім на вачах ва ўсіх справіў у міліцэйскай машыны свае натуральныя патрэбы. Затым маладыя людзі ўзлезлі на капот і наладзілі там танцы, паведамляе «Советская Белоруссия».

Нанесены імі матэрыяльны ўрон перавысіў 1,7 млн рублёў. У дачыненні да хлопцаў узбуджаная крымінальная справа па артыкуле «Злоснае хуліганства».

# Нацбанк: індэкс бізнэс-клімату ў Беларусі знізіўся

**Індэкс бізнэс-клімату ў Беларусі ў лістападзе ў параўнанні з кастрычнікам знізіўся на 6,6% і склаў мінус 8,8%. Пра гэта гаворыцца ў аналітычным аглядзе Нацбанка «Маніторынг прадпрыемстваў рэальнага сектару эканомікі Рэспублікі Беларусь» за лістапад 2013 года, апублікаваным 3 студзеня.**

У Нацбанку адзначылі, што зніжэнне індэксу выклікана змяншэннем, паводле ацэнак рэспандэнтаў, аб'ёмаў вытворчасці і попыту, а таксама чаканнямі далейшага скарачэння гэтых паказчыкаў у найбліжэйшыя тры месяцы. Без уліку сезоннасці індэкс склаў 5,7%, што на 0,8% ніжэй за ўзровень кастрычніка 2013 года і на 10,9% лістапада 2012 года.

Зніжэнне фізічнага аб'ёму вытворчасці і попыту выклікала зніжэнне ўзроўню загрузкі вытворчых магутнасцяў і скарачэнне аб'ёму заказаў на ўнутраным і знешнім рынках. Скараціўся фізічны аб'ём рэалізацыі прадукцыі і ўведзеных у дзеянне аб'ектаў, замарудзіліся тэмпы зніжэння запасаў нерэалізаванай прадукцыі на складах і здачы аб'ектаў з парушэннем тэрмінаў будаўніцтва.

Разам з тым, паведамілі ў Нацбанку, прадпрыемствы адзначылі павелічэнне выдаткаў вытворчасці і зніжэнне інтэнсіўнасці росту адпускных цэн на прадукцыю прадпрыемстваў. Недастатковую забяспечанасць абаротнымі сродкамі адзначылі 58,5% рэспандэнтаў (у кастрычніку – 57,2%). Раслі пратэрмінаваная дэбіторская і крэдыторская запазычанасці. Знізілася велічыня чыстага прыбытку.

Вызначальны ўплыў на гаспадарчую дзейнасць аказвалі змены попыту, забяспечанасць абаротнымі сродкамі, умовы крэдытавання і пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць.

У снежні 2013 года – лютым 2014 гадоў прадпрыемствы-ўдзельнікі маніторынгу чакаюць зніжэння аб'ёмаў вытворчасці, попыту, малаважнага запаволення росту коштаў на прадукцыю прадпрыемстваў, павелічэння патрэбы ў крэдытаванні і скарачэння колькасці занятых.



# Знішчальнікі ЗША пачалі патруляваць паветраную прастору Балтыі

**Знішчальнікі НАТА пачалі патруляваць паветраную прастору Латвіі, Літвы і Эстоніі. Пра гэта паведамляе Міністэрства нацыянальнай абароны Літвы.**

Большасць лётчыкаў НАТА, якія распачалі паветранае патруляванне, — прадстаўнікі ваенна-паветраных сіл ЗША, што прыбылі ў Прыбалтыку з месца пастаяннай дыслакацыі ў Вялікабрытаніі, авіябазы ў Лейкенхіце. Сярод вайскоўцаў НАТА — лётчыкі, тэхнікі, медперсанал, група падтрымкі і спецыялісты па сувязі.

Чатыры знішчальнікі F-15C Eagle будуць базавацца ў Шаўлях, на аэрадроме літоўскіх ВПС. Місія амерыканскіх ваенных будзе доўжыцца чатыры месяцы.

***gazeta.ru***

Беларусь вымірае. Недалёкі той час, калі Глыбокае, якое ў пачатку 1990-х гг ледзьве не перакрочыла 20-тысячную мяжу, неўзабаве, праз адно-два дзесяцігоддзі адкаціцца да мяжы 10-тысячнага пасёлка гарадскога тыпу.

# Беларусь бязлюдная: колькасць маланаселеных раёнаў да 2020-га павялічыцца ўдвая

Колькасць маланаселеных (з колькасцю да 10 тыс. чалавек) раёнаў на вёсцы павялічыцца амаль удвая ў 2020 годзе, сведчыць прагноз колькасці насельніцтва Навукова-даследчага эканамічнага інстытута ( НДЭІ) Мінэканомікі, дадзеныя якога апублікаваныя ў снежаньскім нумары «Эканамічнага бюлетэня», які выдаецца інстытутам.

«Як паказалі разлікі, у перспектыве працягнецца тэндэнцыя скарачэння колькасці вясковага насельніцтва, якая будзе суправаджацца павелічэннем амаль у два разы колькасці маланаселеных раёнаў (да 10 тыс. чалавек), у асноўным засяроджаных на тэрыторыі Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцей», — канстатуюць спецыялісты інстытута Мінэканомікі.

Эканамісты інстытута прагназуюць, што ў 2020 годзе больш за палову сельскіх жыхароў Беларусі будуць пражываць у сельскіх раёнах з колькасцю насельніцтва да 20 тыс. чалавек.

«Згодна з прагнозам, у 2012-2020 гадах колькасць жыхароў павялічыцца ў адзіным буйным раёне (Мінскім) на 10,7 % і складзе 158 тыс. чалавек.

Гэта абумоўлена тым, што Мінскі раён, па сутнасці, з'яўляецца сатэлітам сталіцы рэспублікі», - адзначаюць спецыялісты НДЭІ.

Зніжэнне колькасці насельніцтва ў сельскіх раёнах эканамісты тлумачаць у тым ліку тым фактам, што грашовыя прыбыткі хатніх гаспадарак у гарадах і пасёлках гарадскога тыпу значна вышэй,

чым у сельскіх населеных пунктах (у 2005 годзе - на 45 %, у 2010 - на 34 %, у 2012 - на 29%).

«Гэта тлумачыцца тым, што ў сельскай мясцовасці і сельскай гаспадарцы больш нізкі ўзровень аплаты працы і вельмі абмежаваныя альтэрнатыўныя магчымасці працаўладкавання. Адносна нізкі ўзровень даходаў жыхароў вёскі змушае іх міграваць у гарады, і перш за ўсё ў горад Мінск, дзе існуе вялікая верагоднасць знайсці больш высокааплатную працу», — канстатуюць эканамісты інстытута Мінэканомікі.

Як паведамлялася раней, сярэдняя заработная плата ў лістападзе 2013 года ў Беларусі складала 5,35 млн. рублёў, у тым ліку ў прамысловасці - амаль 5,9 млн. рублёў, у сельскай гаспадарцы - менш за 4 млн. рублёў.

***belapan.com***


в. Майдан, Талачынскі р-н.

# Агульныя і гаспадарчыя суды ў Беларусі аб'яднаныя ў адзіную сістэму судоў агульнай юрысдыкцыі

**У адпаведнасці з дэкрэтам № 6 і шэрагам указаў прэзідэнта з 1 студзеня 2014 года агульныя і гаспадарчыя суды аб'ядноўваюцца ў адзіную сістэму судоў агульнай юрысдыкцыі.**

Узначаліць гэту сістэму адзіны вышэйшы судовы орган па грамадзянскіх, крымінальных, адміністрацыйных і эканамічных справах — Вярхоўны суд. Пры гэтым гаспадарчыя суды абласцей і Мінска будуць перайменаваныя ў эканамічныя і працягнуць сваё функцыянаванне як суды адпаведнай спецыялізацыі.

У сувязі з аб'яднаннем Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў прадугледжана стварэнне агульных органаў судзейскай супольнасці, а таксама наданне Вярхоўнаму суду, яго пленуму і прэзідыуму паўнамоцтваў, аднесеных цяпер да кампетэнцыі ВГС і яго адпаведных органаў.

Пры гэтым да Вярхоўнага суда пераходзяць усе функцыі па арганізацыйным, матэрыяльна-тэхнічным і кадравым забеспячэнні дзейнасці судоў агульнай юрысдыкцыі.

З 1 ліпеня гэтага года плануецца скасаванне Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда і ваенных судоў, іх кваліфікацыйнай калегіі і канферэнцый. Усе паўнамоцтвы Беларускага ваеннага суда і міжгарнізонных ваенных судоў пяройдуць да абласных (Мінскага гарадскога) і раённых (гарадскіх) судоў агульнай юрысдыкцыі. У сувязі з гэтым будзе спынена фінансаванне Міністэрствам абароны сістэмы ваенных судоў.

***Марына Носава, БелаПАН.***

Мінэканомікі:

# На беларускіх сельгаспрадпрыемствах няма каму працаваць

Сельгаспрадпрыемствы краіны адчуваюць хранічны дэфіцыт кадраў

**Толькі палова з іх забяспечаная персаналам у дастатковай ступені. Пра гэта сведчаць звесткі апытання кіраўнікоў сельгасарганізацый, праведзенага Навукова-даследчым эканамічным інстытутам (НДЭІ) Міністэрства эканомікі. У апытанні ўзялі ўдзел кіраўнікі 429 сельскагаспадарчых арганізацый і фермерскіх гаспадарак, паведамляе БелаПАН.**

49,4% рэспандэнтаў ацанілі ступень забяспечанасці кадрамі як здавальняльную. Пры гэтым 4% апытаных кіраўнікоў сельгасарганізацый разглядаюць забяспечанасць сваіх прадпрыемстваў кадрамі недастатковай, 7,6% апытаных ацанілі яе як «вельмі нізкую».

«Найбольшы недахоп кадраў мае месца сярод спецыялістаў у галіне вылічальнай тэхнікі: на вельмі нізкую забяспечанасць супрацоўнікамі гэтай спецыяльнасці паказалі 28% гаспадарак, яшчэ 33,6% кіраўнікоў сельгасарганізацый ацэньваюць іх колькасць як недастатковую», – гаворыцца ў снежаньскім нумары «Эканамічнага бюлетэня», які выдае НДЭІ Мінэканомікі.

У сельгаспрадпрыемствах таксама назіраецца дэфіцыт рабочых прафесій, а менавіта - механізатараў (іх недастатковасць адзначылі 56,2% гаспадарак), аператараў машыннага даення (52,2%) і жывёлаводаў (50,9 %).

На думку спецыялістаў НДЭІ Мінэканомікі, значная частка свабодных працоўных месцаў застаецца незапатрабаванай праз нізкі ўзровень аплаты працы і цяжкія ўмовы працы. Праблема абвастраецца яшчэ і ў сувязі з адтокам кадраў у Расію.

«Сярод рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь найбольш часта з праблемай адтоку спецыялістаў, які выклікае хранічны дэфіцыт кадраў, сутыкаюцца сельгасарганізацыі памежных з Расіяй Гомельскай (у 37,5 % выпадкаў) і Магілёўскай (31,0%) абласцей», – заяўляюць спецыялісты НДЭІ.

На думку эканамістаў, для беларускіх сельгасарганізацый характэрная сёння высокая ратацыя кадраў.

«Высокая ратацыя характэрная перш за ўсё для арганізацый, у якіх узровень аплаты працы ніжэйшы за сярэдні заробак агулам у эканоміцы. Адпаведна нізкая ратацыя кадраў уласцівая прадпрыемствам з высокім узроўнем аплаты працы», - канстатуюць спецыялісты НДЭІ Мінэканомікі.

# Баявую машыну пяхоты ў скверы Перамогі разбіраюць на сувеніры

■ **Ул. Скрабатун**

Нашаму глыбоцкаму народу колькі дабра ні рабі – дзякуй не скажа, а вось свінства наробіць шмат! Было ж яшчэ пару гадоў таму Глыбокае, як нейкі райцэнтар дахадзяга. І ўсё кпілі: Вось у Паставах – «звіняць цымбалы і гармонік», Дзень беларускага пісьменства! А ў нас? Маўляў, начальства наша грошы раскрала і нічога для горада не хоча рабіць!

Ну, зрабілі вам цяпер і Дзень беларускага пісьменства і друку, правялі Вішнёвы фэст... Хутка яшчэ адно свята – 600-гадовы юбілей горада.

Усе, хто прыязджае цяпер першы раз у Глыбокае, кожны амаль як пад капірку кажа: «Я і не думаў (а) і не падазраваў (а), што Глыбокае – гарадок еўрапейскага кшталту. Прыгожы, утульны!

Турысты прыязджаюць, цешацца. Зайздросцяць, што ў нас ёсць і Алея Славы і выдатныя помнікі архітэктуры. Не цэняць усё гэта глыбачане!

Не паспеў стаць першы лёд на возеры Кагальным, яшчэ і рыбакі не рызыкнулі ўзысці, як спрэч тонкі лёд быў закіданы сотнямі пластыкавых і шкляных бутэлек. Гэта ў нас такая залатая моладзь! Прыйшлі на ўзбярэжжа, выпілі з гарла бутэльку гарэлкі, пустую – на лёд! Папілі піва, пустую – на лёд!

А што далей рабіць? Мала гэтага! Гайда, баявую машыну пяхоты на сувеніры разбіраць! Што круцілася і адкручвалася – адкруцілі і знялі. Хутка і гармату з вежай употай адвінцяць!

У нас на Беларусі 1442 міліцыянты на 100 тысяч насельніцтва! А ў Еўропе, на тую ж душу насельніцтва – па 250-300 паліцыянтаў. Во, і парадак там! Праўда, і культура там – нам у прыклад!

Яшчэ ў дзяцінстве мой сусед Яўстафій Жук, не без сарказму, апавядаў, якія ў Глыбокім былі парадкі «за польскім часам»... Едзе мужык на фурманцы па вуліцы Варшаўскай (Маскоўскай), а конь на брук «пончыкаў» наклаў... Мужык не спыняецца, не прыбірае, едзе далей. Спыняе яго паліцыянт. І гумовай палкай мужыку – у карак, у карак, потым яшчэ раз – у карак! А затым – па дупе, па дупе, і яшчэ раз – па дупе! Мужык на ўсё жыццё, пакуль не паклалі ў дамавіну, памятаў: у возе мусіць быць вядро, савок і венік. Глыбоцкі брук павінен быць чыстым! Два паліцыянты трымалі ў жаху ўсё Глыбокае.



Што адкручваецца – адкруцілі, што б'ецца – разбілі!

# Расія і Беларусь створаць турыстычны маршрут «Блакітнае кольца Паазер'я»

**Расія і Беларусь маюць намер стварыць сумесны турыстычны маршрут «Блакітнае кольца Паазер'я», пра гэта паведамілі прадстаўнікі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі.**

Гэты турыстычны маршрут уключыць у сябе прыродныя аб'екты Бярэзінскага біясфернага запаведніка, нацыянальных паркаў «Нарачанскі», «Браслаўскія азёры», «Смаленскае Паазер'е» і «Себежскі».



З мэтай рэалізацыі гэтага праекта Расія і Беларусь распрацавалі сумесны план развіцця супрацоўніцтва асоба ахоўваных прыродных тэрыторый дзвюх краін.

Крыніца: **ТИА**

# Падаткавікі растлумачылі, як і колькі плаціць аўтамытаў

**Міністэрства па падатках і зборах Беларусі выступіла з растлумачэннямі пра парадак выплаты і выпадках вяртання дзяржмыты на транспарт, збіранне якой ажыццяўляецца з 1 студзеня. Мыта павінна быць выплачана фізасобай ці арганізацыяй пры кожным звароце за выдачай дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху, якая выдаецца структурнымі падраздзяленнямі «Белтэхагляду».**

Мыта выплачваецца па стаўцы, павялічанай на каэфіцыент 2, у адносінах транспартных сродкаў, праходжанне тэхагляду па якіх прадугледжана адзін раз на гады. У іншых выпадках яна выплачваецца ў аднакратным памеры. Фізасобы і ІП выплачваюць яе праз банкі ці аддзяленні сувязі, арганізацыі – праз банкі. Пры гэтым аплатныя дакументы на выплату мыты павінны афармляцца на кожны транспартны сродак асобна.

Факт выплаты мыты шляхам пераліку сумы з рахунку платніка пацвярджаецца дадатковым асобнікам аплатнага даручэння, асобнікам аплатнага даручэння, складзеным на папяровым носьбіце пры ажыццяўленні электронных плацяжоў, з адзнакай банка пра іх выкананне. У адзнацы банка павінны ўтрымоўвацца дата выканання аплатнага даручэння, арыгінальны штамп банка і подпіс адказнага выканаўца. Дакументы, якія пацвярджаюць выплату мыты, прадстаўляюцца і захоўваюцца ў «Белтэхаглядзе».

Для мыт за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху з арганізацый уводзіцца код плацяжоў 03005, з фізасоб – 03006. Залічацца мыта будзе ў прыбытак рэспубліканскага бюджэту на рахункі па ўліку сродкаў рэспубліканскага бюджэту, адкрытыя галоўным упраўленнем міністэрства фінансаў па абласцях і Мінску для залічэння плацяжоў, кантроль над выплатай якіх ажыццяўляецца падатковымі органамі.

Льготы па выплаце мыты прадугледжаныя за выдачу дазволу на допуск да ўдзелу ў дарожным руху ў адносінах транспартных сродкаў для перасоўвання інвалідаў. Да такіх транспартных сродкаў адносяцца механічныя транспартныя сродкі, абсталяваныя ручным упраўленнем і якія маюць адпаведны запіс у тэхпашпарце. Таксама льготы выдаюцца ў адносінах транспартных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для аказання медыцынскай дапамогі, рэалізацыі мер па абароне насельніцтва і тэрыторый ад надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару. Акрамя таго, льготы падаюцца на транспартныя сродкі мінабароны, МУС, КДБ, ДПК, іншых войскаў і вайсковых фармаванняў, а таксама на транспартныя сродкі, якія выкарыстоўваюцца для аказання паслуг па перавозцы пасажыраў транспартам супольнага карыстання (акрамя аўтамабіляў-таксі і маршрутных таксі).




Вяртанне ці залік платніку цалкам ці часткова выплачанай сумы мыты за выдачу дазволу на допуск да ўдзелу ў дарожным руху можа быць праведзены ў выпадку, калі мыта выплачана ў большым памеры або не павінна была выплачвацца; платнік, які выплаціў мыту, адмаўляецца ад атрымання дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху да звароту ў «Белтэхагляд» альбо яму адмоўлена ў выдачы дазволу.

Для вяртання выплачанай мыты платнікі-фізасобы звяртаюцца ў падатковы орган па месцы жыхарства, платнікі-арганізацыі – у падатковы орган па месцы пастаноўкі на ўлік. Адначасова за правядзенне тэхагляду і за ажыццяўленне адміністрацыйнай працэдуры ў пунктах праходжання тэхагляду спаганяецца плата ў памерах усталяваных заканадаўствам.

**Стаўкі дзяржаўнай мыты за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху (адна базавая велічыня складае 130 тыс. рублёў)**

| Выдача дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху арганізацыям за: | колькасць базавых велічынь |
|---|---|
| **легкавы аўтамабіль** | |
| які мае дазволеную максімальную масу не больш за 1 тону | 5 |
| які мае дазволеную максімальную масу 1-2 тоны | 7 |
| які мае дазволеную максімальную масу 2-3 тоны | 9 |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 3 тоны | 12 |
| **прычэп, які мае дазволеную максімальную масу не больш за 0,75 тоны** | 3 |
| **грузавы аўтамабіль, аўтамабіль-цягач, седлавы цягач:** | |
| які мае дазволеную максімальную масу не больш за 3,5 тоны | 15 |
| які мае дазволеную максімальную масу 3,5-12 тон | 20 |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 12 тон | 25 |
| **прычэп, што мае дазволеную максімальную масу больш за 0,75 тоны** | 10 |
| **аўтобус** | 15 |
| **матацыкл** | 1 |
| Выдача дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху **фізічным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам** за: | |
| **легкавы аўтамабіль:** | |
| які мае дазволеную максімальную масу не больш за 1,5 тоны | 3 |
| які мае дазволеную максімальную масу 1,5-2 тоны | 5 |
| які мае дазволеную максімальную масу 2-3 тоны | 7 |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 3 тоны | 10 |
| **прычэп, які мае дазволеную максімальную масу не больш за 0,75 тоны** | 1 |
| **грузавы аўтамабіль, аўтамабіль-цягач, седлавы цягач:** | |
| які мае дазволеную максімальную масу не больш за 3,5 тоны | 15 |
| які мае дазволеную максімальную масу 3,5-12 тон | 20 |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 12 тон | 25 |
| **прычэп, што мае дазволеную максімальную масу больш за 0,75 тоны** | 10 |
| **аўтобус** | 15 |
| **матацыкл** | 1 |



# Сетка платных дарог у Беларусі ў новым годзе павялічана на 118 км

**Сетка платных дарог у Беларусі з 1 студзеня 2014 года павялічана на 118 км. На другім этапе стварэння сістэмы электроннага збору платы за праезд па дарогах Беларусі BelToll платным стаў участак магістралі М4 Мінск — Магілёў з 74 па 192 км. Тым самым агульная працягласць сеткі платных аўтадарог у краіне дасягнула 933 км.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе BelToll, нароўні з устаноўкай 11 дадатковых станцый збору і кантролю аплаты ў другі этап прадугледжана адкрыццё двух новых пунктаў абслугоўвання карыстальнікаў платных дарог у Мінску і Мінскай вобласці з кругласутачным рэжымам працы. Для выгады карыстальнікаў зменяць сваё месцазнаходжанне некаторыя існуючыя пункты абслугоўвання кліентаў у Магілёве і Беразіно (Мінская вобласць).

«Першыя чатыры месяцы эксплуатацыі сістэмы былі даволі напружанымі, але дзякуючы сумесным намаганням каманды аператара сістэмы і прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, адказных за яе функцыянаванне, усе запланаваныя вынікі былі дасягнутыя», — адзначыў Сяргей Буры, менеджар па сувязях з грамадскасцю аператара сістэмы BelToll ЗТАА «Капш Тэлематык Сэрвісіз».

BelToll — электронная сістэма збору платы за праезд, заснаваная на выкарыстанні тэхналогіі спецыялізаванай радыёсувязі на кароткіх адлегласцях, якая дазваляе спаганяць зборы з карыстальнікаў дарогі без спынення транспартных сродкаў. Яе камерцыйная эксплуатацыя распачата ў Беларусі 1 жніўня 2013 года. Цяпер сістэма ахоплівае 815 км беларускіх дарог. Праца па пашырэнні сеткі ідзе на ўчастках рэспубліканскіх аўтамагістраляў М4 (Мінск — Магілёў) і М5 (Мінск — Гомель).

*Марына Носава, БелаПАН.*

# З 1 студзеня памер мінімальнай зарплаты ў Беларусі павялічаны на 19% і складзе 1.660 тыс. рублёў

З 1 студзеня 2014 года памер мінімальнай заработнай платы ў Беларусі павялічаны на 19% і складзе 1 млн. 660 тыс. рублёў. Гэта прадугледжана пастановай урада № 1076. Дакумент таксама ўстанаўлівае гадзінную мінімальную зарплату ў памеры 9 тысяч 890 рублёў. Апошні раз гэтыя паказчыкі змяняліся год таму. 1 студзеня 2013 года мінімальная заработная плата была ўстаноўлена ў памеры 1 млн. 395 тысяч рублёў, гадзінная мінімальная зарплата — 8 тысяч 340.

*Марына Носава, БелаПАН.*

